# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл.; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkaušćyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 6 (541) — Нядзеля, 5 лютага 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15

## Камуністычная тэза аб перамозе без вайны

У Дэклярацыі канфэрэнцыі камуністычных партыяў сьвету, што адбылася ў Маскве ў лістападзе мінулага году, гэтак інтэрпрэтуецца запраўдны сэнс камуністычнай канцэпцыі мірнага суіснаваньня:

**«Суіснаваньне дзяржаваў з розным грамадзкім ладам зьяўляецца формай клясавага змаганьня між сацыялізмам і капіталізмам. У ўмовах мірнага суіснаваньня ствараюцца спрыяльныя магчымасьці для разгортваньня клясавага змаганьня ў капіталістычных краінах, нацыянальна-вызвольных рухаў народаў каляніяльных і залежных краінаў... Мірнае суіснаваньне дзяржаваў з розным грамадзкім ладам не абазначае прымірэньня сацыялістычнай і буржуазнай ідэялёгіяў. Наадварот, яно мае на мэце ўмацаваньне змаганьня работніцкай клясы, усіх камуністычных партыяў за перамогу сацыялістычных ідэяў»** («Коммунист», № 17, лістапад 1960, бач. 17).

6-га студзеня Хрушчоў выступіў у Крамлі перад партыйнымі тэарэтыкамі з Вышэйшай Партыйнай Школы, Акадэміі Сацыяльных Ведаў і Інстытуту Марксізму-Ленінізму з даўжэзнай прамовай, якая толькі нядаўна была апублікаваная й зьяўляецца інтэрпрэтацыяй Дэклярацыі маскоўскай канфэрэнцыі камуністычных партыяў. Хрушчоў заявіў, што перамога сацыялізму ў цэлым сьвеце згодна «законаў гістарычнага разьвіцьця» зьяўляецца няўхільнай і то ў недалёкай будучыні. Савецкая палітыка мірнага суіснаваньня й раззбраеньняў зьяўляецца, паводля Хрушчова, першай зброяй канчальнага зьнішчэньня капіталістычнага імпэрыялізму й перамогі камунізму ў цэлым сьвеце. Дзеля дасягненьня гэтай перамогі вайна не зьяўляецца больш неабходнай.

У далейшых сваіх вывадах даў Хрушчоў да зразуменьня, што камунізм будзе стэрацца адхіліць тэрма-нуклеарную вайну, як і войны, якія маглі-б расшырыцца ў вялікія канфлікты. Затое з асаблівым націскам выказаўся Хрушчоў за трэйцюю катэгорыю войнаў, якія ён назваў «нацыянальна-вызвольнымі войнамі». Як прыклад апошніх, прывёў ён альжырскі канфлікт. **«Гэта ёсьць сьвятая вайна»** — заявіў ён, — **«Мы вызнаём такія войны, а народам, якія змагаюцца за свабоду, мы памагалі й будзем памагаць далей».**

Дапаўненьнем да вывадаў Хрушчова была прамова партыйнага тэарэтыка Міхала Суслова, сказаная нядаўна падчас апошняга пленуму ЦК КПСС. Паклікаючыся на Дэклярацыю маскоўскай канфэрэнцыі камуністычных партыяў, Суслоў заявіў: **«Хаця натура імпэрыялізму не зьмянілася, цяпер, аднак, паўсталі магутныя сілы, якія здольныя зьнішчыць ягоныя агрэсыўныя пляны. Настаў час, калі сталася магчымым адхіліць спробы імпэрыялістычных агрэсараў разьдзьмухаць новую сьветавую вайну».**

Суслоў папрабаваў абгрунтаваць статыстычнымі лічбамі савецкую тэзу, паводля якой будучыня належыць камунізму. Паводля ягонага падліку, 35% усіх людзей жыве сяньня пад камуністычнай сыстэмай, 40% становяць тыя, што ўжо вызваліліся з пад каляніялізму або ў сучасны мамэнт яшчэ змагаюцца за дзяржаўную незалежнасьць. Гэтай масе людзей могуць проціўставіць «імпэрыялістыя» толькі 25% насельніцтва зямное кулі.

Вышэй прыведзеныя камуністычныя цьверджаньні й сфармуляваньні не зьяўляюцца для нас ані чымсьці новым, ані неспадзяваным. Мы, палітычныя эміграпты з-за зялезнай заслоны ніколі ня мелі найменшых сумляваньняў у тым, што савецкая канцэпцыя мірнага суіснаваньня з вольным сьветам зьяўляецца задуманая, як аднабокае суіснаваньне, пры якім вольны сьвет змушаны добраахвотна здаваць адну пазыцыю за другой, а камуністыя, ня рызыкуючы небясьпечнай для іх вайной, павінны здабываць перамогу за перамогай. Гэтаксама й савецкія пляны раззбраеньняў у розных іх варыянтах былі задуманыя гэтак, каб у выніку такога раззбраеньня камуністычныя дзяржавы дасягнулі вырашальную збройную перавагу над дзяржавамі вольнага сьвету. Здабыўшы такую перавагу, камуністыя напэўна гаварылі-б зь дзяржавамі Захаду ультыматыўнай мовай, якую, у выпадку патрэбы, маглі-б падмацаваць і ужыцьцём збройнае сілы.

У маскоўскай Дэклярацыі і ў успомненай прамове Хрушчова новым ёсьць тое, што цяпер камуністыя наважылі прамовіць праўдзівай мовай і раскрыць з усей шчырасьцю свае праступныя мэты ў дачыненьні да вольнага сьвету. На падставе сваіх дасюлешніх дасягненьняў у акцыі апанаваньня цэлага сьвету яны прыйшлі да пераканаваньня, што могуць хутка дасягнуць канчальную перамогу бяз рызыкоўнай для іх вайны, адно пры помачы іхнае формы мірнага суіснаваньня й раззбраеньняў. Тут камуністыя лічацца з тым, што пад іхным сыстэматычным палітычным і прапагандовым наступам, а так-жа дзякуючы ўзмоцненай камуністычнай дывэрсіі ў розных краінах вольны сьвет будзе змушаны скапітуляваць. Калі-ж, аднак, не скапітулюе, тады камуністыя не пагрэбуюць і вайной. **«У выпадку, калі капіталізм будзе супраціўляцца, тады працоўныя клясы будуць змушаныя хапіцца за зброю, каб устанавіць сьветавую дыктатуру пралетарыяту»,** — з цынічнай шчырасьцяй заявіў у ўспомненай прамове Хрушчоў.

Далёка ня ўсе ў вольным сьвеце былі здольныя цьвяроза глядзець на справы й бачыць камуністычную стратэгію й тактыку, якой яна ёсьць. А многія з тых, што разумелі загрозу камуністычнае небясьпекі, не заўсёды паступалі каб гэтую загрозу адхіліць або прынамся ле зьменшыць. Да гэтых апошніх належаць ня толькі затуманеныя камуністычнай прапагандай шырокія масы з пад знаку розных «левых», пацыфістых, дэфэтыстых, інтэлектуалістых і наагул рознага роду капітулянтаў, але й многія адказныя палітыкі й навет людзі, што стаяць пры дзяржаўным стырне й нясуць адказнасьць за лёс чалавецтва. Крывадушная камуністычная палітыка, дыпляматыя й прапаганда, праводжаная згодна прынцыпу, што словы павінны прыкрываць супярэчныя ім чыны, зрабіла вялікі ўплыў на заходнюю мэнтальнасьць, прызвычаеную прыймаць у добрай веры й за праўдзівую манэту ўсе камуністычныя дэклярацыі, заявы й запэўніваньні. Вынік быў той, што камуністыя, дзякуючы выдатнай дапамозе самога ж Захаду, дасягвалі над ім адну перамогу за другой і напасьледак прыйшлі да пераканаваньня аб хуткай і няўхільнай перамозе камунізму ў цэлым сьвеце без вайны.

Мала гэтага, камуністыя, відаць, усьведамляючы свае ўдачы й ніздоль-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

## Бярэце зь іх прыклад

Перада мною вялікая, прыгожа й старанна выдадзеная кніга, якая нядаўна паявілася ў Кліўлендзе ў выніку мазольнай саматужнай працы даслоўна пару адзінак ахвярных людзей. Гэта «Беларускі Песенны Зборнік» М. Куліковіча, які ў нашым культурным жыцьці на чужыне бясспрэчна становіць паважную пазыцыю.

Вялікага фармату кніга, выдадзеная на добрай паперы і ў прыгожай вокладцы зь беларускім ткацкім узорам, мае 228 бачынаў друку й зьмяшчае ў сабе тэксты разам з нотамі 92 беларускіх песьняў самых розных жанраў. Аўтарам «Беларускага Песеннага Зборніка» зьяўляецца выдатны беларускі кампазытар і навуковы працаўнік праф. Мікола Куліковіч. Як адцемлена ў прадмове, зборнік складаецца часткова з арыгінальных твораў праф. Куліковіча, а часткова зь ягоных апрацовак беларускай народнай песеннасьці, што была запісаная ім самым або іншымі зьбіральнікамі беларускага песеннага фальклёру (Грыневічам, Шырмам, Сакалоўскім, Аладавам).

Вельмі цікавай і павучальнай зьяўляецца гісторыя ажыцьцяўленьня гэтага цэннага выданьня. Фармальна зборнік выдадзены Згуртаваньнем Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе. Як даведваемся ад Выдавецтва й праф. М. Куліковіча, акцыя збору грошаў на выданьне «Беларускага Песеннага Зборніка» распачалася на пачатку 1957 году. Было разаслана каля 600 зваротаў індывідуальна, у выніку чаго, як і рознымі іншымі спосабамі было сабрана 938 даляраў. Хаця сума была й не малая, аднак за яе яшчэ немагчыма было выдаць прыгатаванага праф. Куліковічам матарыялу. Таму пад канец 1958 году сп. Ул. Дунец узяўся прыгатаваць да друку ўвесь матарыял сам, г. зн. собскаручна падгатаваць кажную бачыну нотаў да канчатковага выгляду, з чаго ў друкарні рабіліся клішы. Гэтаксама й тэксты песьняў складаліся не на лінатыпе, а іх набіраў сп. Дунец ручным спосабам сам у заімправізаванай у ягоным памешканьні міньятурнай друкарні пры дапамозе сп. М. Пruскага з Дэтройту. Такім чынам было заашчаджана больш за 1500 даляраў. Рабілася ўсё гэта вечарамі пасьля хвабрычнае працы, і вось напасьледак, гэтая мазольная работа ўкаранавалася бліскучым посьпехам. У канцы мінулага году салідная й імпазантнага выгляду кніга беларускіх песьняў з нотамі выйшла з друку.

Але гэта яшчэ толькі першы крок у творчых плянах праф. М. Куліковіча й сп. Ул. Дунца. Пасьля распрадажы гэтага зборніка яны плянуюць прыгатаваць і такім-жа спосабам выдаць наступную кніжку «Беларускага Песеннага Зборніка». Цяпер яны мяркуюць выдаць беларускія мэлёдыі для акардыёну, бо шмат беларускае школьнае моладзі вучыцца йграць на акардыёне. У далейшым пляне папулярныя юнацкія й вайсковыя песьні розных беларускіх кампазытараў. Незалежна ад усяго гэтага, цяпер сп. Дунец падрыхтоўвае папулярныя песьні ў вапрацаваньні праф. Куліковіча, якія час ад часу друкуюцца ў «Бацькаўшчыне» й пазьней выйдуць асобнай кніжкай.

Як бачым, праф. Куліковіч і сп. Дунец ня толькі бясплатна й пры ўкладзе вялікае працы ажыцьцявілі выданьне «Беларускага Песеннага Зборніка», але й робяць далейшыя пляны, каб толькі забясьпечыць эміграцыю беларускай песьняй і пашыраць яе ў вольным сьвеце. Няма патрэбы й даказваць, якую вялікую карысьць абодвы яны прыносяць для беларускай нацыянальнай справы й які прыгожы прыклад даюць для нас усіх.

У нас часта падыймаецца пытаньне аб рэалізацыі розных патрэбных выданьняў. У свой час у колах Беларуска-Амэрыканскага Акадэміцкага Таварыства ставілася пытаньне апрацаваньня й выданьня собскімі сіламі саліднай інфармацыйнай брашуры аб Беларусі ў ангельскай мове. Але прайшоў нейкі час і аб гэтым пляне больш нічога ня чуваць, хоць такая брашура пякуча патрэбная. Часта гаворыцца аб патрэбе апрацаваньня й выданьня гісторыі Беларусі, нястача якой на эміграцыі даецца нам усім у знакі. У свой час на бачынах «Бацькаўшчыны» была зробленая ініцыятыва навуковага апрацаваньня й выданьня кніжкі, прысьвечанай сотай гадавіне паўстаньня Кастуся Каліноўскага й ягонай трагічнай сьмерці. Але ня чуваць, каб гэтую ініцыятыву хтосьці падхапіў, хоць у параўнаньні зь іншымі навуковымі прафэсіямі гісторыкаў у нас хоць адбаўляй. Узьнікалі й іншыя карысныя праекты, але, як звычайна, справа канчалася адно гутаркамі й пабожнымі зычэньнямі. Віна заўсёды звальвалася на тое, што няма, маўляў, грошаў, няма каму гэтым заняцца і г. п.

Невялікая штука зрэалізаваць задуманую справу, калі для гэтага ёсьць усе нармальныя ўмовы й фінансавыя магчымасьці. Выдаўцы «Беларускага Песеннага Зборніка» нагляднa паказалі, што можна зрабіць многае й тады, калі гэтых умоваў і магчымасьцяў няма. Галоўнае, каб была ахвота, добрая воля й звычайная людзкая працавітасьць. Дык бярэце зь іх прыклад!

**Ст. Крушыніч**

## Сёе-тое

Калісь за часоў нямецкае акупацыі ў рэдакцыю віленскага «Беларускага Голасу» зьявіўся малады гімназісты. Рэдактар Францішак Аляхновіч папрасіў юнака сесьці й ветліва спытаўся, у чым справа. Вучань выцягнуў зь кішэні дбайліва зложаную ў чатыры картачку, старанна запісаную радочкамі верша. Ведамы беларускі драматург, кінуўшы вокам на твор, прыабяцаў зьмясьціць. За пару дзён у «Беларускім Голасе» зьявіўся верш, але ўсхваляваны аўтар спасьцярог, што ня было самай першай і асноўнай зваროткі. Гучэла яна так:

Прывітаньне, табе Вільня,  
Слаўны горад Крывічоў,  
Места памятак магільных  
Нашых прадзедаў, дзядоў.

Пакрыўджаны аўтар, забегшыся па дарозе із школы ў рэдакцыю, даведаўся, што галаву ягонаму вершу абрэзала нямецкая цэнзура. Гітлераўскія акупанты лічылі Вільню нямецкай, а адным з довадаў нямецкасьці старажытняе сталіцы Беларусі быў цудоўны гатыцкі касьцёл Сьвятое Ганны.

Гэтую гісторыю абезгалоўленага верша давялося прыгадаць нам у сувязі зь вершам Алеся Звонака «Вільнюс», зьмешчаным у № 12 «Беларусь» за мінулы год.

I заўважце: гітлераўскія акупанты ўсё-ж не пайшлі так далёка, як маскоўскія. Тыя хоць галовы абразалі, але ў беларускай мове й паэзіі пакінулі «Вільня». А для бэсэсэраўскіх паэтаў дык «Вільнюс» мусіць быць ня толькі ў геаграфіі, але і ў паэзіі.

I хоць ніхто зь іх не ўлажыў яшчэ такога:

А ў Вільнюс на пляцу Лукішкас  
стаіць слаўны Калінаўскас,

але, калі-б, скажам, які паэта задумаў праславіць беларускага рэвалюцыянера, то ці ж змог-бы абмануць партыйнае вока й абыйсьціся бяз «юс», «ас» і іншых эсаў?

I быў катаржнік, што да нядаўнага часу маляваў паўночнае зьзяньне, тундру й аленяў, пачынае свой твор гэтак:

О Вільнюс, горад непаўторна-дзіўны,  
Дзе ўсё кантраст, дзе даўнасьць з [навізной  
Існуюць побач! Зь вежы Гедыміна  
Глядзеў я ўніз, захоплены табой...

На нашу думку — надта шэра. Аўтар мог быць захоплены, але чым, не асьмеліўся сказаць. I два радкі другой зваротки адкрываюць чытачу вочы, адкуль такая маруда ў першай:

Сьвяціла сонца нам адной Айчыны.  
Што парадніла нас навек зь Літвой...

Вось дзе сук — у гэнай «айчыне» зь вялікай літары. Ці тое «сонца» сьвяціла ці пражыла, што аж творчы дух у былага фізычнага, а цяперашняга духовага катаржніка займала, няцяжка дагадацца. Беларусы (ў той час Ліцьвіны) тады парадніліся (дабравольна!) зь Літвой (у той час Жамойцяй), калі маскоўскія князі й цары татарскім ханам нізка чалом вобземлю білі й даніну-золата вазілі.

Сяньняшнім-жа нявольнікам, гэтак званым прымусовым сваяком з ласкі «сонца Айчыны» й сваю старажытную сталіцу дазволена адно Вільнюсам называць.

I пры гэтых згадках пра Вільню зноў узьнікае набалелае пытаньне: чаму ніхто з вольных беларускіх гісторыкаў ці пісьменьнікаў на эміграцыі не здабыўся на працу аб Вільні? Ці-ж калыска вялікага беларускага гаспадарства ў мінулым, а пасьля беларускага нацыянальнага адраджэньня не заслугоўвае на папулярызацыю сярод сваіх і чужых?

☆

Ужо ў часе вайны руплівыя гітлераўскія акупанты думалі аб тым, якім чынам у будучыні маюць стравіць забранае, калянізаваць беларускія й іншыя землі. Таму, што часьць «унтэрмэншаў» маніліся пакінуць на развод як працоўнае быдла, для іх быццам-бы меліся быць створаныя спэцыяльныя школы, у якіх меліся вучыцца нямецкае мовы, але толькі дастаткова для таго, каб умелі чытаць нямецкія дарожныя знакі, ведаць загады «ібэрмэншаў» аб нормах працы й падатках.

«Родная партыя» мусіць разьмінулася ў паглядах на беларускі народ з калішнімі ягонымі хаўрусьнікамі. Яна добра ведае ўстойлівасьць беларускае мовы, традыцыяў і рэлігіі між беларускіх калгасьнікаў-прыгоньнікаў, а таму ніколі й не адважылася думаць прымусова прышчэпліваць «самы перадавы й обшчэпанятны». Пакідаем тут на баку панующую партыйную й бюракратычную верхавіну, вышэйшыя навучальныя ўстановы й нязьлічоных асноўных бэсэсэраўскіх цівуноў, якія даўно ўсвоілі карыстацца расейшчынай і ёсьць прыладай русыфікацыі народу.

Да прыгоньніка-калгасьніка «роднапартыйная ільічоўская» прапагандовая атрута й загады мусяць даходзіць адно ў беларускай мове, каб зразумеў і ведаў, як скакаць мусіць, каб нормы выканаць. Нам добра ведама, што беларускі прыгоньнік-калгасьнік, ужывае ня толькі раённыя, але рэспубліканскія ды й цэнтральныя бальшавіцкія газэты найчасьцей для курэньня, загортваньня селядцоў і ў тым месцы, куды «цар пехатой хадзіў». Адылі, калі чалавек ня чытае газэту сам, дык можна калгасьнікам прышчэпліваць чырвоную атруту калектыўна, прыкладна на калгасным ці «роднапратыйным» прапагандовым сходзе. Вось чаму й трэба дбаць тады, каб калгасьнік зразумеў, а значыцца трэба пісаць і нявыкрыўленай зразумелай беларускай мовай.

Пытаньню чысьціні беларускай мовы ў раённых (бо ў рэспубліканскіх не дазволена) газэтах прысьвячае шмат увагі ў № 4-м за 5-га студзеня «Звязды» нейкі Алексяевіч. Жаліцца ён, што «раённая прэса, якая вырасла ў вялікую сілу... не аддае належнай увагі літаратурнай апрацоўцы матарыялаў, захаванню чысьціні мовы, элемэнтарных правіл правапісу. Сустракаюцца блытаныя фармулёўкі, скажэнні фактаў...»

Цьвердзячы за Някрасавам, што трэба каб і ў раённых прапагандыўках «словам было цесна, а думкам прасторна»,

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Беларускія Каляды ў Лёс Анджэлесе

Ад некалькіх ужо гадоў Аддзел Мастацтва Гарадзкой Управы Лёс Анджэлесу ладзіць калядны фэстываль, які завецца «Каляды ў розных краінах». У 1960 годзе Гарадзкая Ўправа запрасіла і Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня прыняць удзел у гэтай міжнацыянальнай імпрэзе, на што Аддзел згадзіўся. У імпрэзе былі рэпрэзэнтаваныя наступныя краіны: Аўстрыя, Баварыя, **Беларусь,** Чэхаславаччына, Данія, Эстонія, Фінляндыя, Італія, Францыя, Нямеччына, Вугоршчына, Ірляндыя, Японія, Ярданія, Латвія, Летува, Мэксыка. Пакістан, Філіпіны, Польшча, Шатляндыя, Гішпанія, Швэцыя й Швайцарыя. Фэстываль гэты пачаўся 9-га сьнежня й кончыўся 18-га сьнежня 1960 г. Наведала яго больш за 20.000 чалавек. Праграма складалася з выстаўкі нацыянальных ялінак і канцэрту, ладжанага нацыянальнымі групамі. Выступленьне кажнае групы трывала 30-45 хвілінаў.

Выстаўка складалася ня толькі з самых ялінак. Месца, прыдзеленае кажнай групе, было велічынёю жыльлёвага пакою, і апрача ялінкі, былі разьмешчаныя й экспанаты. Цацкі зрабілі нашыя жанчыны й прыбралі ялінку, як гэта рабілася дома. Сьцены былі аздобленыя прыгожымі беларускімі дзяружкамі. У куце вісеў абраз, а на століку й падвышшэньні былі разложаныя вышываныя падушкі, шкатулкі, аздобленыя беларускімі арнамэнтамі з саломы, лялькі ў нацыянальнай вопратцы й інш. На сьцяне каля праходу вісеў ангельскі тэкст беларускіх нацыянальных звычаяў, а пад ім карта Беларусі. Шмат стэндзаў дзяржаўных нацыянальнасьцяў былі прыгатаваныя мясцовымі консулятамі.

Беларускія дзяжурныя ў нацыянальнай вопратцы адказвалі на пытаньні наведвальнікаў, пераважна выясьняючы, што Беларусь гэта не Расея, а Беларусы не Расейцы ці «беларасейцы». Аказваецца, што гэта ня так лёгка й проста з прычыны назову нашае краіны ў ангельскай мове «Беларашa», бо англамоўныя народы перадаюць слова «Русь» і «Расея» адным і тым самым «Раша», а не адукаваным у беларускай гісторыі й геаграфіі Амэрыканцам (адукаваных можна палічыць на пальцах) цяжка ўцяміць розьніцу. Праблема гэтая вельмі сур'ёзная. Небясьпека ў тым, што паколькі шырокаму амэрыканскаму грамадзтву Беларусь мала ведамая, можна дапускаць, што наведвальнікі, дзівячыся на беларускія выстаўкі (ня толькі ў Лёс Анджэлесе), пакідаюць іх з уражаньнем, што бачылі нешта расейскае. Таму роля дзяжурных вельмі важная, і да помачы ім патрэбная інфармацыйная літаратура пра Беларусь у ангельскай мове. Інакш, шкада часу й грошаў, каб прычыняцца пашыраць прапаганду пра... Расею.

Із сваей мастацкай часткай беларуская група выступала ў вапошні дзень фэстывалю — у нядзелю 18 сьнежня. Праграма складалася зь інсцэнізацыі беларускага каляднага вечара — куцьці, калядоўшчыкаў і двух танцаў — «Лявоніхі» й «Крыжачка». На вялікай сцэне пад адкрытым небам стаяў стол, а побач ялінка. Прадстаўнік Гарадзкой Управы прадставіў беларускую групу й перадаў мікрафон сп. Кастусю Вайцяхоўскаму, які выконваў ролю канфараньсье-наратара. Ён паінфармаваў прысутных пра Беларусь, выясьніў, што Беларусы гэта не Расейцы, а зусім асобны народ, ды расказаў пра беларускія калядныя звычаі. Калі скончыў, на сцэне паявіліся гаспадар (сп. Я. А.) з пучком сена й гаспадыня (сп-ня Марыя Мяленьцева). Гаспадыня памагла расьцярушыць сена на стале, накрыла стол белым абрусом і прапяяла «Сьвецяць зорачкі» пад акампаньямант на акардыёне сп. Алімпа Мяленьцева, а наратар прадаўжаў паясьняць акцыю ў ангельскай мове. Наступна ўбеглі ў «хату» дзеці (Нона Мяленьцева, Рэна й Нуся Стусы), і матка з дачкой Нонаю вельмі прыгожа выканалі калядную песьню «Ой, на моры, моры». Наратар расказаў пра сымболіку куцьці-вячэры. Тады цэлая сям'я, ходзячы карагодам вакол ялінкі, прапяяла «Ой, калядачкі, бліны-ладачкі». Бацька раздаў дзецям падаркі, а наратар сказаў, што куцьця цяпер закончаная й сям'я пойдзе ў царкву.

На першы й другі дзень Каляд, — прадаўжаў наратар — людзі вяселяцца, ходзяць калядоўшчыкі, адбываюцца народныя танцы. Тады на сцэну ўвайшлі калядоўшчыкі із зьвяздою. Праваднік калядоўшчыкаў (сп. Віктар Кло) запытаўся гаспадара: «Ці сьпяваць, ці так прашу нам каляду даць?» Гаспадар папрасіў сьпяваць. Тады калядоўшчыкі (Клок, Вайцяхоўскі, Каця Вініцкая й Валя Стус) з дапамогаю сям'і й акардыёну прапялі калядкі: «Ўчора зь вячора», «Саўка ды Грышка» й «Ішла Каляда». Як прыклады народных танцаў, Нона Мяленьцева выканала солё «Лявоніху» а К. Вініцкая, К. Вайцяхоўскі, В. Стус і В. Клок «Крыжачок». Беларускае выступленьне было ўзнагароджанае доўгімі й бурнымі воплескамі звыш 600 гледачоў. Вайцяхоўскі падзякаваў і пажадаў усім Вясёлых Каляд паангельску й пабеларуску. Прадстаўнік Гарадзкой Управы пагратуляваў удзельнікаў і кіраўніцтва беларускага выступленьня праз мікрафон, а з боку перадаў старшыні аддзелу БАЗА, што нашае выступленьне было найлепшае за ўсе іншыя дзякуючы ўдалай інсцэнізацыі, спалучанай з нарацыяй, што дало магчымасьць гледачом поўнасьцю разумець дзею й значаньне кажнага нумару.

Афіцыйнае адкрыцьцё фэстывалю папярэдзіла некалькі выпадкаў. У сувязі з фэстывалем мэр гораду Полсон 7-га сьнежня вечарам згатовіў прыняцьце мясцовым консулятам. Пасьля прыняцьця мэр із сваімі гасьцьмі наведаў выстаўку. Старшыня Аддзелу БАЗА ў асысьце сакратара (К. Вініцкая), апранутыя ў нацыянальную вопратку, спаткалі мэра й ягоных гасьцей і правялі цікавыя гутаркі пра Беларусь ды ўручылі брашуры «Вольнасьць і незалежнасьць Беларусі» ў ангельскай мове. Наступнага дня, 8-га сьнежня, прыбылі прадстаўнікі прэсы й тэлевізіі, якія рабілі здымкі нацыянальных выставак. 10-га сьнежня прадстаўнік аднае радыястанцыі запісаў на стужку інтэрвью із старшынём Аддзелу БАЗА пра беларускія Каляды, якое было перададзенае таго-ж самага дня. 15-га сьнежня тэлевізыйная станцыя 4, у сваёй перадкаляднай праграме, паказвала нацыянальныя ялінкі, улучна зь беларускай, а дырэктар Аддзелу Мастацтва пры Гарадзкой Управе расказваў пра калядныя звычаі краінаў, якіх ялінкі й выстаўкі паказваліся ў тэлевізіі. Тры дні перад Калядамі адна з большых мясцовых газэтаў «Экзэмінэр» зьмясьціла здымку зь беларускай выстаўкі зь ялінкаю й праваднікамі ў нацыянальных вопратках, а пад здымкаю артыкул «Каляды ў іншых краінах — Беларусь расьсьцілае сена», у якім былі апісаныя беларускія калядныя звычаі.

Усё гэта, зразумела, прышлося ня лёгка — каштавала шмат працы, энэргіі, грошаў, а перадусім — добрае волі. Каб арганізаваць імпрэзу такіх памераў, Аддзел БАЗА заклікаў і Беларусаў не сяброў Аддзелу, каб памаглі. Прыхільна адгукнуліся сп. К. Вайцяхоўскі, сп-ва Шэлесты й сп. Віктар Клок. Сп. Вайцяхоўскі, ня гледзячы на вялікую адлеглясьць (Сан Дыего), змог прыяжджаць на рэпэтыцыі, гэтак выдатна спрычыніўся да мастацкае часткі ды памог пакрыць расходы. Сп. Клок зрабіў калядоўніцкую зьвязду, сп-ва Шэлесты памаглі сяброўкам БАЗА зрабіць цацкі на ялінку, а сям'я Стусаў прыняла ўдзел у мастацкай частцы. Усім ім тут вялікае грамадзкае дзякуй.

Найшліся й такія, якім ня толькі не хапіла добрае волі, але й беларускага сэрца. Калі зьявілася нагода зрабіць нешта карыснае для агульнае беларускае справы, яны схаваліся за свайго груповага бажка. Гэтыя вузкія груповыя «палітыкі» з закасьцянелым сьветапаглядам лягернага пэрыяду й псыхалёгіяй «калі сам ня гам, дык і другому ня дам», спалохаліся, што, барані Божа, БАЗА, сабе забярэ ўсе «гонары» заслугі, дарма што Аддзел БАЗА згаджаўся дзяліць клопаты, выдаткі й «гонары» з усімі, хто прыйме ўдзел, як гэта ўжо рабілася раней. Яны пастанавілі, што беларускай справе прыбудзе, калі іхныя вышыванкі й дзяружкі, заміж упрыгожваць выстаўку, будуць зьбіраць пыл. Іншыя зашыліся глыбока ў сваю груповую норку й «байкатуюць», няведама толькі, каго й што. Людзям лёгкім у пяры й здольным да сатыры якраз надараецца добрая тэма чыркнуць пра «норкі» і з «пылам каморкі». Гэта была-б шмат лягчэйшая й блізкая да праўды сатыра, чымся тая пра «зрабілі БАЗУ для паказу». «Палітыкам», хворым на груповую сьлепату, пара ўжо ўцяміць, што Амэрыканцы, якія маюць здольнасьці блытаць нас з Расейцамі, тым болей не патрапяць разабрацца ў беларускіх «групах», і таму няма патрэбы, а навет некарысна марочыць ім галовы, асабліва выступаючы з мэтаю рэпрэзэнтацыі нейкаю «груповасьцю».

Поле да папулярызацыі Беларусі й беларускага руху ў Амэрыцы шырокае й моцна зарослае палыном. Лёс Беларусі ў вялікай меры будзе залежыць ад таго, ці мы патрапім пераканаць амэрыканскі народ і ўрад, што Беларусы гэта апрычоны народ, які імкнуўся й імкнецца да незалежнасьці з пад чужога ярма. Нас не за шмат тут, каб пазваляць на груповыя «люксусы», і таму ўсе імпрэзы, маючыя на мэце пашырэньне ведаў пра імкненьні беларускага народу, павінны ладзіцца, пры адпаведнай каардынацыі, супольнымі сіламі ўсіх існуючых беларускіх арганізацыяў, каб дасягнуць максімальны эфэкт. Нядаўная імпрэза ў Чыкаго хай служыць прыгожым прыкладам карыснага супрацоўніцтва. А справу «гонараў» хай вырашае будучыня.

**Я. А.**

# Страх перад «сьвятой вадой»

Непадалёк ад вёскі Кліны Слаўгарадзкага раёну Магілёўскай вобласьці, акружаная старымі вольхамі, красуецца крыніца. Вада ў ёй надзвычай прыгожая. Мясцамі яна ператвараецца ў цёмна-блакітную ў глыбокіх месцах. На дне відаць ствалы дрэваў, аброслыя ярка-зялёным мохам.

Аб гэтай крыніцы апавядаецца шмат лягендаў. Вось адна зь іх:

У даўныя часы жыла-была прыгажуня і кахалі яе два віцязі. І паабяцала яна выйсьці замуж за таго, хто далей кіне камень. Першым кінуў прыгожы віцязь. Упаў камень далёка за горад. Кінуў тады няпрыгожы і паляцеў камень за Сож аж да самых Кліноў. З той пары загаравала прыгажуня. Часта прыходзіла яна да каменя і горка плакала. Зь ейных сьлёзаў і ўтварылася Кліноўская крыніца.

Вада ў крыніцы мае мінэральныя складнікі, якія гаюча дзеюць на арганізм чалавека. Ня дзіва таму, што крыніца заваявала сабе такую славу ў людзей. Цудоўна аздараўляючая вада прыцягвала да сябе паломнікаў з адлеглых ваколіцаў Беларусі і з-за ейных межаў. Людзі абвесьцілі гэтае месца сьвятым і з тэй пары штогод 14-га жніўня, у дзень мучаніка Макавея, тут зьбіраюцца веруючыя. Таксама і на Вадохрышча кажны год ля крыніцы бывае вельмі мнагалюдна.

Да гэтага часу савецкая ўлада на Беларусі аказалася бясьсільнай у змаганьні з гэтым зьявішчам. Вось цяпер, напярэдадні Сьвята Вадохрышча праводзілася ізноў акцыя з боку камуністых, каб перашкодзіць веруючым сабрацца ля крыніцы із «сьвятой вадой».

12-га студзеня радыё Магілёў прысьвяціла адмысловую перадачу гэтай акцыі. З гэтай перадачы мы даведваемся, што калгасьнікі арцелі імя Крупскай, на тэрыторыі якой знаходзіцца крыніца, былі сагнаныя разам з жыхарамі суседніх калгасаў на сход. Дзеля чаго? Як даслоўна гаворыцца ў перадачы, — «каб намеціць меры па спыненьні сьвятых оргій над крыніцай. Першым на сходзе, — гаворыцца далей у перадачы Магілёўскага радыя, — выступіў лектар абкому партыі таварыш Шэлях. Ён указаў на рэакцыйную сутнасьць рэлігіі...»

У выступленьнях іншых прамоўцаў-агітатараў прапануюцца ўсякія мерапрыемствы, каб толькі ня даць магчымасьці веруючым зьбірацца каля крыніцы.

Адкуль такі страх бальшавікоў перад «сьвятой вадой». Ці гэта толькі змаганьне з забабонамі? Бязумоўна — не. Гэта — страх перад непераможнай сілай рэлігійных пачуцьцяў народу. Пакінем збоку пытаньне, ці зьяўляецца вада прыгаданай крыніцы цудадзейнай, ці лекавыя ўласьцівасьці яе тлумачацца проста мінэральнымі складнікамі, якія ў ёй знаходзяцца. Важна зусім ня гэта. Крыніца сталася для веруючых сьвятой і зь іншага пункту гледжаньня: яна сталася месцам масавай малітвы, як-бы вялізарнай сьвятыняй пад адкрытым небам. Для бальшавікоў-жа — гэта сымбаль іхнага бясьсільля над душой народу, гэта непасрэдны выклік іхнай уладзе. Вось чаму яны так баяцца «сьвятой вады» — баяцца, як чорт Крыжа...

# Магілёўскае паўстаньне

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

места Магілёў зраўнанае ў усіх правох і прывілеях, свабодах, выгадах і вольнасьцях із сталічным літоўскім местам Вільняю».

Як бачым, Магілёўскае паўстаньне было падрыхтаванае зь нязвычайнай дакладнасьцяй. Нянавісьць магілёўцаў да маскоўскага войска была нагэтулькі вялікая, што ня гледзячы на утаямнічаньне ў падрыхтовы паўстаньня вялізнае колькасьці, — калі блізу не ўсяго —, магілёўскага жыхарства, тайніца гэтая ня была нікім зраджаная аж да апошняе часіны. Ня меншай была іхная здысцыплінаванасьць, бо ўсе гаспадары памешканьняў, дзе кватаравалі маскоўскія жаўнеры, павыймалі крамні зь іхных стрэльбаў у дакладна азначаным часе. Што-ж датычыць людзей, якія сядзелі ў турме й выпушчаныя на свабоду магілёўскімі мяшчанамі выдатна дапамаглі перамозе паўстанцаў, а якіх ігумен Арэст называе ў сваіх «Запісках» Палякамі, — дык няма сумлеву, што гэта ня былі Палякі ў сэньсе нацыянальным, а каталікі-Беларусы, якіх маскалі, уважаючы за больш няпэўных, чымся праваслаўных, трымалі ў зьняволеньні.

Магілёўскае Паўстаньне можа быць для нас прыкладам, як належыць змагацца з захопнікамі нашае Бацькаўшчыны, і прыклад гэты актуальны для беларускага народу й на сяньняшні дзень. Таму трэба парупіцца, каб славутыя трахсотгадовыя ўгодкі былі належна адзначаныя ў кажным асяродку беларускае эміграцыі.

Слава-ж памяці нашых далёкіх продкаў, што з гэткім гераізмам патрапілі змагацца за незалежнасьць свае й нашае Бацькаўшчыны-Беларусі ужо трыста год таму!

**Ф. Кушаль**

---

калака. Некаторыя навет гатовы былі пабажыцца, што ня раз бачылі іх сярод аброслых мохам камянёў, увайшоўшых амаль цалкам у зямлю.

Раманка так быў зацікаўлены апавяданьнем бацькі, што баяўся навет пальцам варухнуць. Потым спытаў:

— Ярылавы — гэта, пэўна, памылка, бо такога імя няма. Можа, хіба, Гаўрылавы? Гаўрыла, можа, які там быў пахаваны?

— Ярыла — гэта адно, а Гаўрыла — другое, — растлумачыў бацька. — Ярылам нашыя прашчуры называлі бога, — так растлумачыў мне каморнік. Ягоны агонь натхняў іх на працу, на змаганьне із зьверам, аберагаў іх ад хваробаў...

— Добры бог быў, — сказаў Раманка. — Як у байцы ўсёроўна...

— Вось і цяпер яшчэ, як пасьля зімы ў першы раз выганяюць з пастухом жывёлу ў поле, дык праз статак пастух кідае яйко й заклікае бога Ярылу, каб ён аберагаў жывёлу ад пошасьцяў і зьвера...

— А ці нашыя прашчуры былі паганцы? — запытаў Раманка.

— Ты-ж мусіў-бы ўжо чытаць пра гэта ў кніжцы?

Раманка ў задуменьні прамовіў:

— Як шмат трэба вучыцца, каб ўсё ведаць...

— Усяго ведаць ніхто ня можа, — заўважыў бацька. — Але тое, што было, ведаць трэба. Асабліва, што было на нашай зямлі!

— Дык дзе-ж пра гэта дазнаешся, калі ў кніжках няма?

— У тваіх кніжках няма, але ёсьць гэтакія кніжкі, дзе ўсё запісана праўдзіва, што адбылося на нашай зямлі. Як вырасьцеш ды навучышся добра ў кніжках разьбірацца, дык пазнаеш...

Гэта так завайстрыла цікаўнасьць хлапчука, што ён не ўцярпеў, каб не падзяліцца сваімі ўражаньнямі з Сабінкай, зь якой ён сядзеў на аднэй парце і шчыра сябраваў — і аб скарбах, і аб Швэдах, і аб Ярылавых капцох, аб паганстве і хрысьціянстве. Сабінка была нейкая больш рэалістычная і пажартавала зь яго:

— А ты такое сумленнае ягнятка, што і паверыў усяму?!

— Пэўна-ж, скарбы ў Гарадцы закапаны! Зенька, навет хадзіў ужо адкопваць!

— Ты і Зеньку ўжо паверыў?

— Зеньку? — Раманка задумаўся. — Зеньку, не, не паверыў. Але як я вырасту і выўчуся, абавязкава раскапаю гарадзецкую гару і Ярылавы капцы выведаю...

— Ну, і што з таго будзе?

— З капцоў? Гэта вельмі цікава: трэба ведаць, што і калі адбылося на нашай зямлі. Мы, вось, ня ведалі навет, што мы раней Літвінамі ды Літвой называліся. А гэта-ж праўда! Так у кнігах усё перакручана! Адкапаць усё гэта вельмі цікава, таксама, як адкапаць багаты скарб...

— Ну, і што ты тады із гэтым скарбам будзеш рабіць?

— Гм, — Раманка усьміхнуўся. — Адбудую багаты палац, а цябе за князёўну вазьму!

— Ой, Раманка, ты запраўды цікавы хлопчык — выклікнула Сабінка.

☆ ☆ ☆

Аднаго разу, маці паслала Раманку з палуднем для бацькі на поле. Сінія смугі вясновай вады яшчэ ляжалі па лагчынах. Раманка ішоў памалу, пазіраючы то ўлева, то ўправа і слухаючы трэлі жаўрукоў, што званочкамі віселі ў высі, і жалобныя стогны кнігавак. Чаму гэтых птушак называюць кнігаўкамі? Ён успамінае словы маці: «усім птушкам Бог даў назовы, а гэтай забыўся. Лётае птушка ды плача. Чаго ты плачыш? — пытаецца Бог. Як-жа мне ня плакаць, калі ніхто на сьвеце ня будзе ведаць, як мяне завуць? Усе істоты маюць сваё імя, а я яго ня маю. — Зазірнуў Бог у сваю кнігу, куды ён запісваў усе свае справы, а на супраць кнігаўкі і, праўда, пустое месца. Тады Бог і кажа: ну, дык будзеш ты ад гэтага часу кнігаўкай.»

— Гэты назоў і праўда — такі да яе вельмі пасуе, — падумаў Раманка. — Але, хіба Бог можа забывацца?

Бацька выпраг з плуга каня, падвёў яго да павозкі і разьвязаў мяшок ізь сенам. Сам узьлез на воз і пачаў сёрбаць буракі з затаўкай, якія так смачна пахлі, што ў Раманкі аж у носе казытала, не зважаючы на тое, што ён перад выхадам добра іх навурзаўся. Пасьля буракоў, разьвязаў маленькі гаршчочак зь ячменнай кашай, запраўленай кароўім маслам, але каша гэтая ня ўступала па смаку бурачком, бо Параскоўя, маці Рамана, умела яе рабіць пасвойму: ячмень для гэтае кашы перш-на-перш вырыла, потым сушыла на печы, а потым таўкла ў ступе і пазьней ужо прасявала, каб аддзяліць мякіну ад зерня. Раманка сядзеў і пазіраў у неба. Такой раньняй вясной ён быў на полі ўпяршыню і ўсё навокал набывала для яго асобны інтэрас. Грамады белых воблакаў, што плылі высака над галавой, здаваліся яму то горамі, награмоджанымі адна на адну, то вялікімі шматпавярховымі будовамі (пра якія ён толькі яшчэ чуў ад бацькі), паміж якімі навет снуюць як-бы людзі. Потым гэтыя будовы рушыліся, сьціраліся і на іхнае месца ўзьнікалі скачучыя вазы — ён, навет, як-бы бачыў і коняў, то шасьцярыкі, то тройкі і пары. Усьлед за тым і гэта зьнікала, так што усачыць за ім было цяжка, і пачыналі плыць вятразьнікі з шырокімі палубамі, на якіх мітусіліся людзі.

Раманка падзяліўся сваімі ўражаньнямі з бацькам.

— А ты ня думай так моцна, бо галава забаліць, — адказаў той.

— Ды я ня хачу, але яно само думаецца.

Яхім зірнуў на сына і ў задуменьні сказаў:

— Гмм, зь цябе выйдзе або нешта надзвычайнае, або зусім... нічога.

Раманка крыху засмуціўся: яму крыўдна было, што бацька ня зусім верыць у ягоныя сілы, якія ён адчуваў у сабе.

Калі апарожненыя гаршкі апынуліся зноў у трапкачыку, Раманка сьціраваўся ў зваротную дарогу. Але ён не пайшоў да хаты, а павярнуў у лес, дзе знаходзіліся Ярылавы капцы: цягнуў яго туды нейкі нявытлумачальны, але і неадхільны, неадкладны інтэрас, быццам-бы, калі ён ня ўчыніць гэтага, дык і змарнее ад смутку. Выказаць вобразна гэтае пачуцьцё можна наступным чынам: у ім гарэла ўжо іскра таго агня — можам назваць яго Ярылавым агнём — які штурхае асобу да вялікіх спраў.

**(Далей будзе)**

